# ЛЕТАПІС

Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік

№ 4-8 КРАСАВІК — ЖНІВЕНЬ 1936 г. ГОД II





„Вечар Беларускае Поэзіі і Песьні“ 15.III.36 г.

Поэты і арганізатары Вечара.

Стаяць зьлева направа: Хв. Ільляшэвіч, М. Танк, Бярозка, В. Тумаш, П. Сяргіевіч.
Сядзяць: д-р Ст. Станкевіч, М. Машара, Р. Шырма, М. Васілёк, М. Шчорс.

# ЗЬМЕСТ:




СКЛАДКІ: 3 зл. 60 гр. на год
1 зл. 80 гр. на паўгода
асобны нумар 50 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:

Вільня, Каралеўская вуліца 3-8.

# ЛЕТАПІС
## Таварыства Беларускае Школы
КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

П. З.

## Нёман.

Цябе вітаю Нёман родны —
тугі народнае рака,
ў тваіх зялёных тонях водных
струіцца скарга бедняка.

Зьнямелы, зьдзіўлены, трывожны
стаю заслуханы ў табе,—
квяцісты лук — залом твой кожны—
жальбой растаньня ў грудзі б'е.

Шчабечаш зеленьню птушынай,
хвалюеш моладасьці сон,
і льецца борам сьпеў дзяўчыны,
і грае рэха ў перагон!...

А дзе абдзёрта нэндзай вёска
страхой прыпала да цябе, —
шуміш сіротлівай бярозкай,
ракочаш ласкаю ў журбе.

Паволі ціхнеш адгалоскам
і там, дзе ціха над вiром
тужлівых дум навісьлі лозы
з густым зялёным трасьнікам.

А выплыў з пушчы — разгарнуўся,
як лебедзь белы з аблакоў;
як вочы дзетак Беларусі,
сьмяешся сіньню васількоў.

І нешта ў сэрцы так глыбока
шапоча, пеніцца, кіпіць,
плыве з прастораў дум шырокіх,
з народных просіцца крыніц.

Ці з лугавых дзён салаўіных,
ці з долі — мачыхі ліхой?
ці з дзедаўскіх начэй лучынных
імглістай восені глухой?

Ня знаю скуль плыве, і толькі
сны ў'юцца хмелем-дзеразой.
Кіпіш мне, Нёман, быльлю горкай,
шуміш народнаю сьлязой!...

Цяпер спрагнёнымі вачыма
плыву і п'ю тваю красу —
з вастрожнай торбай за плячыма
прывет байцоў табе нясу.

Калі-ж у гулкім хваляў гудзе
крывавы боль раскалышу?
калі-ж на ўспеняныя грудзі
я галаву сваю злажу?

М. ВАСІЛЁК

# З букетам красак.

*(Прысьвячаю хвораму другу В. А. Труцько).*

Як майскі дзень пахучы разсьмяяны,
Як песьня ціхая засмучанай краіны, -
Мой мілы Друг, Ты ў душу маю глянуў
І сьлед глыбокі ў ёй навек пакінуў.

Жыцьцё змагаў упартай барацьбою,
Зьнясьці усё за лепшы час гатоў;
Дабро, дабро Ты сеяў за сабою
Між нядоляй змучаных братоў.

Душа Твая — прастор старонкі мілай
У звонкім гімне смутку і красы:
Над маткаю схіляўся так збалелай
Працоўнай Беларусі чэсны сын...

О, Друг, павер, — хоць нас і дзеляць мілі —
Мая душа і песьня вітае над Табою
З букетам красак лугавых, каля твае пасьцелі,
І з майскім вечарам, з пахучым цьветабоем.

Так веру я, як сонцу, што ўзыйдзе,
Ты ўстанеш хутка зноў здаровы, сьвежы, -
Яшчэ мы даплывем да тога ўзьбярэжжа,
Дзе мейсц ня знойдзецца і крыўдам і бядзе.

---

# Кувала зязюля.

Вось ён закінуты ў гушчар
Куточак мілы, мейсца тое,
Дзе сны нявінных ціхіх мар
Люлялі дзецтва залатое..

О колькі дарагіх хвілін
Глухі паросшы быльнік крые...
Так—сходзяць, сходзяць маладыя
Гады з жыцьцёвых каляін.

Вось тут — я не адзін стаяў, —
Кувала шэрая зязюля...
Казала мне яна:—Спытай,
Ці доўга будзе жыць матуля?

...Чатыры!.. пяць!.. І горкі плач:
— Матулечка, чаму-ж так мала!..
— Пакінь, я буду жыць. . Забач,
Як яна весела кувала!

Матуля родна маладой
Ў краю далёкім сьпіць даўно...
Я на магілку гэты ёй
Ўю з красак сэрца верш-вянок.

О, ты шчасьлівейшая быць можа,
Хоць цёмна, цесна дамавіна —
Ды сэрца чулага трывожыць
Ня будуць беды твайго сына...

Забярэзіна, Май 1936.

---

# Ў калосьсях сьпелых нівы.

Шугае сонца вогнішчам. Сьпякота.
Стаю з сярпом ў калосьсях сьпелых нівы,
Чакаю, каб на міг хоць твар, заліты потам,
Асьвежыў вецер - ветрык жартаўлівы, —
А ён заўсёды дзесь хаваецца у жніва...

І хоць прыбоем б'е у сэрца думак хваля,
Што хутка будзем жаць на шырэйшым загоне, —
Мне жнеяў песьня душу ўскалыхнула жалем,
Прад ёй жытцо на серп схілялася ў паклоне,
Лавіў яе, туляў разлог працоўных гоняў.

О, гэта песьня, песьня з пакаленьняў,
Калі бізун прыгонны ўторыў ёй са сьвістам,
Калі зьнямогшы падала прад сонцам на калені
Гаротніца жняя, калі сьлязой празрыстай
Была скроплена, амыта кожда жменя.

Ня раз нават, ня раз ў калысцы палатнянай
У гэты самы дзень сьпякоты, пад мяжой
Была яна не аднаму з нас ў сэрца навевана,
Маўляў, каб кончыць з доляю паганай,
Расьціла нас з ахвярнай гартованай душой.

Малюнак бачыў я. Ня знаю, з радасьці ці смутку сэрца забалела:
Жнея малодка жала загончык з долю шырынёй...
І быццам на паказ з разоркі да разоры шасьцёра іх сядзела,
А сёмы плакаў у калысцы пад мяжой.
Эх, падрастуць — ня хопіць баразёначкі адной!

Шугае сонца вогнішчам. Сьпякота...
Стаю з сярпом ў калосьсях сьпелых нівы.
Хоць цяжкае жыцьцё, а жыці так ахвота,
Бо чую ўжо другой я песьні пералівы,
З засеву новага чакаю — будзе жніва...

Баброўня. Жнівень 1936 г.

---

# На магілу.

*(Памяці А Самойло).*

Яшчэ адну крывавую ахвяру
Сьмерць вырвала бязлітасна з радоў...
Як сокал малады, схіліў ён пад ударам
Навекі голаву у росквіце гадоў.

Юнак наш дарагі, таварыш, брат — бывай!
Ты мала цешыўся красой свайго жыцьця:
Пагас агонь грудзей, адцьвіў твой пышны май —
На зсохшым явары лісткі не шалясьцяць

Дабра жадаў і шчасьця для братоў,
Змагаўся, страціў сілы маладыя —
І струны сэрца парваліся жывыя,
Ня б'ецца ўжо яно — застыла кроў...

О, мілы брат, не дачакаўся ты
Пары другой, другой вясны жаданай...
Калі разьвеецца штандар наш сонцам тканы,
Прыдуць к табе таварышы - браты.

І над магілаю, уквечанаю ружай,
Пахіляць голавы ня лёсу жабракі,
А сыны вольныя краіны — дзён прыгожых —
Паложаць на грудзёх тваіх вянкі.

Бабровуня, Май 1936 г.

# З заросшых палеткаў.

Міхаська рос сіроткаю. Зімой бегаў ў дзіравых башмаках, падораных суседам Гарасімам. Найбольш сядзеў ў запечку на кухні і сачыў, як выжымала кухарка адзежу, як выпроставаліся яе чырвоныя, апараныя рукі. Удыхаў едкі запах мыдлін. Бывалі хвіліны і неспакойныя для Міхася, — гэта тады, калі прыходзіла старая напоўзвар'яцеўшая пані. Абціраў рукавом нос і зыходзіў ў кут кухні, каб не замінаць. Шпарка падцягваў згрэбныя парткі на аднэй падцяжцы і сачыў з падалба, як ходзяць усе па хаце. Цяпер есьць дармавы хлеб, але затое летам будзе пасьвіць жывёлу і тады мае права есьці, як сваё.

Травень. Рудыя купіны высунулі свае касматыя галовы з пад сьнегу. Сонца сыпнула праз сетку тумана брылянцістыя косы. З хмызьняку, над ракою, ляцеў крык качак, варон; з трыпетам уздымаліся і білі крыльямі ў рудыя, голыя галіны дрэў.

Вясна. Селянін першы раз выпусьціў худую, з аблезлымі бакамі карову. Павольна, хістаючыся ішла на паству і абнюхавала яшчэ кволыя, добра ня вылезшыя з зямлі сьцяблінкі травы. Ішла Лысая ў новы сьвет, трасучы рагамі, углядаючыся ў цёмную даль лесу. Міхась з Арцёмам ішоў за скацінаю. Моцна траслася, насоўваючыся на вочы, вялікая гаспадарская шапка, калі забягаў наперад, каб прытрымаць кароў.

Пацяклі дні. Рана яшчэ да усходу сонца плёўся Міхаська з торбаю пад пахай, заглядаючы соннымі вачыма з пад навісшае шапкі. Прыстаноўліваўся і грэў на камені босыя, змерзшыя на раньняй расе ногі, Жылі згодна з Арцёмам. Арцём вязаў венікі, плёў кошыкі і за гэтыя грошы купляў часта Міхасю гасьцінцы.

* * *

Міхась прылёг у цяню. Думкі пачалі блукацца, мітусіцца... Заснуў. Сьніцца вёска. Вось ён, няведама чаму, бяжыць з усімі ў школу.—Чаму гэта я – дзівіцца, — плакаў, каб пусьціў гаспадар у школу? Ён ідзе і садзіцца за шырокі, вялізарны стол. Настаунік, нібы дзядзька Арцём, сядзіць ў запечку і расказвае казкі: як за паншчыны білі людзей бізуном, як заказвалі кукавацьна дрэве, а потым тр-р-а-ах! – застрэліў зязюлю! Потым усе пішуць. Міхась бярэ жменяй пяро і піша: Міхась Сарока. А літары, кручкі, хвосьцікі, дугі, колы, усё ён знае. З гэтых мудрасьцяў паўстаюць словы. Зноў усё скруцілася. Гэта-ж у Хведаравага Андрэя такі прыгожы конік! Вазьму знаю дзе хавае; і падклікаў, бярэ, а за ім хтось сьвішча, пяе! Бяжыць Міхась, а ногі так косяцца, млеюць. Вось-вось здаганяе, але тут абрываецца сон. Прачнуўся. Гнуліся вяршыны дрэў, у лісьцях вецер. Цяжкія, валавяныя хмары віселі над зямлёй.

— Дзе каровы? Дзедка, гэ-э-эй!

Шуміць хмызьняк, б'е паклоны зямле.

Гэй-й, гу-у! — Гук зліўся з шумам ветру. Нічога ня чуваць. Сьлезы навярцеліся ў вочы.

— Го-о-п! — Го-о-п! — адазваўся ў другім канцы лесу дзед.

— Што-ж, прачнуўся?

— Вельмі, дзедка, жывот баліць,—і Міхась з страхам пазірае на чорныя ніска навісшыя хмары. — Не магу нат' хадзіць, — а сам трасецца, каб дзед не загадаў быць у полі.

Але сьмяецца дзед і пазірае на льняную галоўку хлапчука.

Тур-р!—страсануў зямлёю гром.

— Ну, брат, бяжы дамоў і там добра нагрэй на печы, а як сьціхне балець жывот, тады прыходзь.

– Паправіцца, за гэта я ўжо пабажыўся. Ну і ашукаў дзеда — думае сьмяючыся Міхась. За мінуту быў ужо дома.

* * *

Янук учора прыехаў з гораду дамоў. Быў студэнтам. Яго старая з выцертымі бакамі валізка была набітая кніжкамі. — Для вёскі, — гаварыў і заціраў доўгія, худыя рукі. У вечары, ў суседа, дастау Арцём ад студэнта кніжку.

„Ярка на камінку смольны корч палае...“ — чытаў раніцаю Міхасю. Міхась сядзеў і прыслухваўся, як памалу, перарываючы, цягнуў манатонна дзед.

— Эх, брат! Мудра пішацца ў кніжках. Калісьці я вучыўся паўзімы. Вучыцель, сьвятой памяці Антон Дзяруга, моцную меў руку. Э-э-х! Бывала малітвы, ці „Бородино“ — ледзь языком пасьпееш варочаць.

Міхась маўчаў. Вось ён бачыў сябе, як татка пляце яму лапці, а маці шыкуе торбу, бо прад ім вялікая, нязнаная дарога. На прыпячку пылае агонь. У дзіцячай душы ціхі супакой бацькоўскай апекі. Ён будзе магчы гутарыць з кніжак.

— Лысая, ах каб цябе!...

Пад вечар сядзеў Міхась каля дзеда і памалу выводзіў пальцам па літарах. За тыдзень умеў чытаць. Вечарамі выбягаў да Янука і там узбагачваў яшчэ большаю ведаю сваю дзіцячую душу. Будучыня пакажа нам яго.

МІХАСЬ ПАДБЯРЭСКІ.

Вільня. 19.VI.36 г.

М. МАШАРА

* * *

Вёска, вёска! чым ты сёньня
Устрывожаная так?
І чаму твае далоні
Самі корчуцца ў кулак?

Хто разрухаў твае нетры
Забабоннай цемнаты?
І пашто скваплiва з ветрам
Ловiш рэха барацьбы?

І ня плачаш так ад гора
І ня стогнеш ад жуды,
Як бывала ў соннай зморы
Вечна плакалі дзяды?

Хто бунтуючым задорам
Поіць сэрца маладых?
Дзе падзелася пакора —
Сьвятасьць звычаяў былых?

Галаву скрабуць старыя:
—Штось-ці будзе!... Штось ідзе!..
Разхісталiсь маладыя,
Кепскiм пахне, быць бядзе!

Шмат каго зусiм ня цешыш
Сёньня, вёска, ты сабой:
Хочаш быць бунтурна-грэшнай
І запраўды маладой.

* * *

Вёска, вёска, ты прамокла,
Навакол туманiць слякаць.
Ах, ня муч мне сумам вока,—
Я з табой ня буду плакаць.

Лiстападам нудна-шэрым
Заглядзелась ў даль нямую.
Пэўна цiха вёрсты мерыш
У краiну ты другую,

Дзе вясна, няма туманаў
І так ясна сьвецiць сонца.
Мне таксама, Край каханы,
Сьнiцца сон гэты бязконца!

Мы з табой, напэўна разам,
Рушым хутка ў падарожжа
І вярнуўшыся раскажам,
Як там соўнечна-прыгожа.

Толькi ты ня муч мне вока
Шэрым сумам і балотам.
Лепей згiнем там, далёка, —
Ня чым плакаць тут пад плотам.

* * *

Вецер кудлаты на вербах
Песьняй узрушаў гальлё;
Месяц у лужынах гэрбы
Тчэ серабром.

Ночка прышла і ахвоча
Усё агарнула ў палон;
Попелам шэрым у вочы
Сее хтось сон.

Вёска заснула ў пасьцелi
Месячных кос і начы.
Полымем зор задрыжэлi
Струны-душы.

Хутка народзiцца песьня,
Новая песьня мая:
Думкам пявучым за цесна
Стала душа.

* * *

Даўно, даўно я не пяяў,
І голас стаў ня звонкі і слабы,
Хоць песьні я не разкахаў
І сэрцам я таксама малады.

Ды коўдрай белаю туман
Пакрыў ваколіцу і сад,
І восень нудная вось там
Глядзіць у вочы шэрых хат.

І дзень, і ноч імгліцца дождж,
І дзень, і ноч — нуда і сум,—
І не падняць апаўшых воч,
Не пабароць маркоты дум...

---

*З цыклю — Безработныя.*

* * *

Цяпер зусім я не вясёлы.
У сэрцы ціхі сум нашу.
Наш край сягодня мусіць хворы,
Крывавіць штось яго душу.

Куды ні глянь расьце трывога,
І прыкрых зьяваў маем шмат.
Пагрозай чорнай ад парога
Глядзіцца беднасьць ў пустку хат.

Ў жыцьці цяжкім, ў жыцьці будзённым
Так многа крыўд і горкіх мук.
А я ня ўмею быць сьцюдзёным,
Глядзець на ўсё праз пальцы рук...

Мне цяжка бачыць боль і мукі
Чыйго-сь маячаньня ў паўсьне.
Як няжывыя вянуць рукі,
Спаткаўшысь з кім ў чужой бядзе.

Такая ціш па ўсей старонцы!
Нат' цяжкай працы рух занік?
Затое можа у самагонцы
Скваплва топіцца мужык.

# На прасторах Пружаншчыны.

Спатыкаемся з ім даволі часта. Гаворым на розныя тэмы, а найчасьцей варочаемся да найбольш для нас балючае—культурнаасьветнае працы на вёсцы.

— Скажы мне, дружа, як працуюць тут, пасьля закрыцьця усіх беларускіх культурных арганізацый, польскія — ў выглядзе „Кол млодзежы вейскай“ і іншых? Ці яны маюць які грунт пад нагамі, ці вісяць у паветры?“

—„Ведаеш, браце, — дакладна ўсіх кол характэрызаваць ня буду. Скажу толькі аб пары, якія сам добра знаю. Колаў ёсьць у Пружаншчыне некалькі дзесяткаў, але яны нічога амаль не робяць. Інструктар езьдзіць, угаварвае, але гэта не памагае: яны фактычна істнуюць на паперы, дзейнасьці ніякай на вёсцы не праяўляюць. А калі і робяць што, то зусім не па лініі пратэктараў.

Вось, напр., Дабучынскае кола, яно ня толькі што нічога для польскасьці ня робіць, але так сябе вядзе, што інструктар даўно хацеў-бы яго развязаць, але баіцца кампрамітацыі“.

— „Чаму“?

— „А вось чаму. Закладаў, езьдзіў па вёсках, а цяпер развязваць трэба. Дык за што-ж яму грошы плацяць—калі праца ідзе на убытак? Як-жа начальства на яго гляне? А гэтае кола, як на бяду, захацела спэктакль беларускі на Вялікдзень паставіць. Нават захады рабілі ў старостве. Нічога, ясная рэч, не вышла з гэтага, — толькі скандал. Бо і як-жа! Польскае кола, сябры „палешукі-палякі“ (паводле урадавае тэрміналегіі—на Палесьсі няма Беларусаў — ёсьць толькі „палякі-палешукі“. якія гавораць „простай мовай“) і тут на табе — беларускі спэктакль! Ды гэта-ж так не падабаецца, што хоць ты бяры ўцякай ад іх, гэтых „бушмэнаў“ палескіх, якія знаць не хочуць вышэйшай культуры“!

— „Так, гэта праўда, што „культураносцам“ няпрыемна. Але можа гэта адзіночны выпадак, няўжо ўсюды так робяць?“

—„Ведаеш, рабіць можа і не робяць так, як у Дабучыне, але калі не робяць так, то зусім нічога ня робяць. Гата-ж таксама лічыць трэба, як адпор беларускай масы“.

— „Часткова, бязумоўна, ты маеш слушнасьць. Але, калі нічога ня хочуць рабіць ў польскім духу, хай тады выпішуцца зусім з гэтых кол. Нашто там займаць месца і рабіць рэкляму для інструктароў платных з падаткавых грошаў“?

— „Гэта толькі так табе здаецца на першы пагляд, яно глыбей глянуўшы крыху інакш выглядае. Паясьню табе на прыкладзе Пружанскага кола. Знаходзіцца яно ў павятовым месьце. Дзе ўжо быць польскаму духу, як не тут — але яго няма. Гэтае кола багатае людзьмі, а таксама нічога ня робіць. От, няма дзе хлопцам дзецца — арганізацый беларускіх няма, трэба-ж дзе небудь сабрацца, песьні пасьпеваць, прачытаць газэту. Вось і належаць да кола. А каб выявіць табе настрой гэтай масы, дам табе пару канкрэтных прыкладаў. Праваслаўныя, якіх ёсьць большасьць, трымаюцца асобна ад каталікоў. Паміж сабою папольску не гавораць. Калі былі выбары ў урад кола, пастанавілі ня ўводзіць туды нікога з каталікоў, (якія ў большасьці лічаць сябе палякамі)—„Тады, кажуць, і песьні сваёй не засьпеваешь“. А вось галасы некаторых з іх: — „Э, ўсероўна, браце,

нічога не даб'ешся пры такім палажаньні! На ліха мне здалось бы гэтае кола, каб было дзе час правясьці. А так мус. Ня буду-ж лазіць па Пружане, трэба недзе зайсьці, вось і належу да кола".

„Гэткія настроі прабіваюцца ў праваслаўнай частцы сяброў. Стараюцца толькі тыя, якія кончыўшы рамесленную ці народную школу, думаюць дзеколечы за стоража ўлезьці, ці работу дастаць. Тыя ўгоднічаюць перад інструктарам—але іх рэшта ня любіць. Ведаюць — з за-чаго яны стараюцца".

Пасьля гэтых выясьненьняў, мне зрабілася ясна, чаму ў красавіку на прадстаўленьні „Szczęśliwy gracz" у Пружане, якое ладзіў „Тэатр людовы", было ўсяго сто з чымсь асоб, калі там можа зьмясьціцца больш за 200. На адзін спэктакль, якія ладзяцца рэдка, і то сабраць публікі ня могуць. І гэта дзеецца ў Пружане, дзе многа чыноўнікаў, вучыцялёў і т. пад. Стала ясна, чаму вучыцель вёскі Чахач пасьля прадстаўленьня даў хлопцам 20 зл. на выпіўку: бязплатна яны не захацелі-б гуляць. А тут ён мае ад начальства пахвалу, і манаполь заробіць. А хлопцам абы выпіць — такія заўсёды знойдуцца. Стала ясна такжа, чаму паліцыя забірае зусім легальны беларускі друк, як „Новую Зямлю", Я. Коласа, прынятую як лектура у польскіх вучыцельскіх сэмінарыях, і „Летапіс". (24-IV-36 г. забрана у Ів. Лапуко з вёскі Бакуны, Сухапальскае валасьці).

Хаця польская культура вышэй ад беларускай, але на беларускіх землях укараніцца ня можа, бо шырокія масы беларускага народу імкнуцца да свае роднае культуры.

*П. З.*

ПЯТРУСЬ ГРАНІТ

# Са школы.

Грамадой вясёлай
Дзеці йдуць са школы;
Разам і Мацейка
Йдзе, ды не вясёлы.

Маці із Сьцяпанам
У сынка пытаюць:
— Аб чым, скажы, у школе
Дзетак навучаюць?

Смуціцца Мацейка:
— Расказаць ня ўмею,
Што вучыцель кажа —
Я не разумею,

Бо ня нашай мовай
У школе гутораць.
— Праўда, што чужою —
Яму бацька ўторыць.

— Але ня смуціся,
А чакай цярпліва;
Завітае доля
І да нас шчасьліва.

Хутка ўжо здабудзем
Школу ў роднай мове,
Тады зразумееш
Ты усё даволі.

# Брукар.

Звоніць молатам сталёвым,
Б'е брукар па камянёх,
Шлях стары ён робіць новым,
Каб ня раніць болей ног.

Падымае цяжкі молат
Мазалістая далонь.
Ён ўладар і працы волат,
Ў сэрцы радасьці агонь.

Толькі рэха раздаецца,
Іскры сыплюцца ў вачах,
Камень роўненька кладзецца, —
Ён будуе новы шлях.

Шлях той будзе чысты, роўны,
Каб ня раніць болей ног.
Павядзе ён люд працоўны
К лепшай долі, наўпярод.

---

М. ЗАСІМ

# На новы лад.

Як пісаць на новы лад —
Не варыць „адрына“,
Калі так жыве наш брат,
Як за Гэдыміна.

Тая-ж губка, той крамень
Ды такая-ж ежа,
Гэтак сама кожны дзень
„Хаме“ — душу рэжа.

Така хата, воз такі —
Розьніца мо' ў сьпіцах;
На шмароўку-ж ў каладкі
Казячкі мы тычам.

А адзежа, боты ў нас?...
Лепш не ўспамінаці:
На нагах з гумы камаш
Кіляў будзе з дваццаць.

Пра адно мо' трэ піснуць
Пановаму мусі,
Што ўсё-ж людзі нашы йдуць
К новай Беларусі.

* * *

Ўсюды, ўсюды новы формы:
На адзежу ўбутак, хаты,
Ўсюды новыя рэформы,
Але толькі для багатых.

А для бедных ўсё старынка:
Сьвітка, лапаць, курна хатка, —
Ёсьць, што праўда, і навінка.
— А якая? — Гума, братка! *)

---

Старыя гумовыя шыны ад самаходаў сяляне на Палесьсі ужываюць на лапці — „самаходы“.

# Новыя песьні А. Грэчанінава.

Беларускія канцэрты ніколі ў нас не праходзяць, каб у праграме не стаялі творы А. Т. Грэчанінава. За пасьпех такіх канцэртаў заўсёды гаворыць слаўнае імя вялікага кампазытара, гарманізацыі каторага займаюць выдатнае мейсца ў беларускай музычнай літэратуры ў нас на Захадзе. Гэтыя гарманізацыі маюць свой асаблівы Грэчанінаўскі стыль, дзе надзвычайна прыгожа, ясна і далікатна ткуцца цудоўныя ўзоры настрояў і пераживаньняў, якія хвалююць поэтыцкую душу беларускага селяніна.

За плячыма ў Грэчанінава стаіць ужо 73-ці год жыцьця, але слаўны кампазытар, хоць і прыгнечаны цяпер матар'яльнымі няго-



А. Грэчанінаў.

дамі, аднак творыць многа і час ад часу прысылае беларускаму народу свае мастацкія гарманізацыі народных песьняў.

Часта прыходзіцца чуць такое пытаньне: „Дзе радзіўся Грэчанінаў, што ён так добра ведае беларускую песьню, так глыбака вычувае ў ёй народную душу"?

Радзіўся А. Т. Грэчанінаў у Маскве ў 1864 годзе 25 кастрычніка. На пачатку вучыўся ў гімназіі, а пасьля 4-е клясы паступіў у Маскоўскую Консэрваторыю, якую скончыў па клясу раяля ў праф. Сафо-

нава. Пасьля Маскоўскай Консэрваторыі, дастаўшы стыпэндыю, паехаў вучыцца ў Пецярбугскую, дзе праходзіў кампазыцыю і інструмэнтоўку ў знанага кампазытара Рымскага-Корсакава.

З такім вялікім запасам спэцыяльнае веды, з такім глыбокім скарбам музычнае культуры выйшаў Грэчанінаў у сьвет. Вось ужо амаль 45 гадоў ён мае за сабой плоднае працы на музычным полі. Усе віды музычнай творчасьці аднолькава даступны вялікаму кампазытару: ад дзіцячых песьняў да опэр уключна, ад лёгкіх фортэп'янавых п'есаў да аркестравай сымфоніі. І разам з тым гэта вялікі знаўца народнай музыкі наагул.

Тут мы як раз падыходзім да адказу на пытаньне, адкуль Грэчанінаў, масквіч, мог пазнаць беларускую песьню.

У 1903 годзе пры Маскоўскім Ун-це была заснавана Музычная Сэкцыя Этнографічнага Т-ва. Старшынёй сэкцыі быў выбраны праф. Н. Янчук, кіраўнік этнаграфічнага аддзелу Румянцаўскага музэю — беларус. Віцэ-старшынёй пры ім быў Грэчанінаў. На працягу 15-ці гадоў камісіяй было собрана некалькі томаў народнай музычнай творчасьці, у тым ліку натуральна і беларускай.

„Працуючы ў гэтай камісіі — піша Грэчанінаў у сваёй кнізе „Моя музыкальная жизнь" — я меў магчымасьць пазнаць песьні ўсіх народаў Расеі, з якіх *асабліва палюбіў беларускія*". (Падкр. наша Г. Ш.)

Як старшыня камісіі так і віцэ-старшыня былі вялікімі знаўцамі беларускай народнай песьні. Аб гэтым сам А. Т. Грэчанінаў расказвае такі забаўны факт.

„Аднойчы прыносіць мне Янчук дзьве беларускія песьні: „Гэй ты, доля" і „Бяда" з тым, калі спадабаюцца мне, каб я іх апрацаваў. Песьні спадабаліся, я напісаў іх для сьпеву і фортэп'яна і надрукаваў. Калі я прынёс іх Янчуку, праіграў і перадаў яму ноты ў падарак, ён нейк хітра глянуў на мяне, падзякаваў і сказаў:

— Надта добра, толькі мэлёдыі і тэкст гэтых песьняў не народныя, а мае.

Я так і ахнуў: так добра было падроблена на народны лад. Натуральна, у наступным выданьні мае песьні: „Доля" і „Бяда" мелі зацемку: тэкст і мэлёдыя Н. А. Янчука".

Вось адкуль пачынаецца знаёмства Грэчанінава з беларускімі песьнямі.

Заглянуўшы раз у гэтыя прыгожыя крыніцы ня можна ад іх адарвацца. А. Т. Грэчанінаў і цяпер часта чэрпае натхненьне з гэтай крыніцы. За апошнія пару гадоў пасьля 70-летняга юбілею (кастрычнік 1934 г) напісаны ім новыя беларускія творы: „Беларуская Рапсодыя" для сымфонічнае аркестры, 10 папулярных народных песьняў для салясьпеву і фортэп'яна. (A. Gretchaninoff 10 Chanson populaires de la Blanche Russie pour Chant et Piano): „Ува Іардані", „Ой рана, рана куры запелі", „Шчодры вечар" — ка-

лядкі (Пружанскі павет), „Ой пайду я лугам, лугам“ (Сакольскі п.), „Ой ты грушка мая“, „Ой не вылятай сіва зязюлька“ — восень (Пружанскі п.), „Ляціць сарока“ (Аўгустоўскі п.), „Ды шчука рыба ў моры“ (Косаўскі п.), „Там каля млына“ і „На дварэ дождҗык“ (Пружанскі п.).

Апошнія апрацоўкі А. Т. Грэчанінава, прысланыя ў Вільню ў жніўні м-цы гэтага году — Тры беларускія народныя песьні для мяшанага хору: „Кукавала зязюлька“ — вясельная (Пастаўскі п.), „Зялён гай“ (Ваўкавыскі п., запісь А. Сахарчука) і „Ой гыля, гыля гусі вадою“ (Пружанскі п.). Прысьвячаюцца Р. Шырме.

Песьні гэтыя, як і ўсе Грэчанінаўскія гармонізацыі, цудоўныя, апрацаваныя з вялікім артызмам. Асаблівай прыгожасьцю ў выкананьні хорам адзначаецца апошняя песьня „Ой гыля, гыля“. Нашыя скарбы растуць! Да павялічэньня іх спрычыняецца слаўны кампазытар А. Т. Грэчанінаў.

Р. ШЫРМА.

НІНА ТАРАС

# Ночкаю зоры...

Ночкаю зоры ў небе тапілісь,
ў небе балоцістым, мокрым і гразкім,
А ў апаўшым і стоптаным лісьці
Восень бальляды складае і казкі.

Хочаш прыслухацца ветру шалёнаму?
Эх, брат, ня тое табе ён навее!
Плакала маці цэлу ноч цёмную, —
Сястра сухотная не здаравее.

Сьціхні! Там пэўна ўзаранае поле
Тчэ аксамітныя з руні дываны...
Часам у вырай у сінім бяздоньні
Рвецца гусіны ланцуг схваляваны.

Прыйдзе вясна маладая на нівы,
Сонечнай зеленьню май разальлецца,
І лес заспаны, лес сіратлівы
Новаю песьняй ускалыхнецца.

Толькі там пэўна цяпер, як калісьці,
Зоры у небе купаюцца гразкім,
І пэўна сумныя ў стоптаным лісьці
Восень бальляды складае і казкі.

АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ

# Восень.

Ў небе ў'ецца хмарамі
восень непагодная,
туманом імшарамі
сьцелецца галодная.

З ветрам разшалелая
цешыцца свабодаю,
лісьця пажаўцелае
ліжа, як галодная.

Але мне дарэмна ты
цярушыш мак роспачы,—
ветры думак росквіты
не затопчаць поўначчу.

Я надзеі праменем
ў дні вясеньня зорныя
распалю іх полымям
бурна непакорныя.

Веру, што гарт выкуем
барацьбой штодзеннаю,
з праўдаю вялікаю
зможам ноч васеньнюю.

---

С. ХМАРА

# Зазванілі...

Зазванілі яму, зазванілі,
як на вечны пакой вынасілі...
Не званы зазванілі ў касьцеле—
галасамі дзяцей зсірацелых,
голас жонкі, бацькоў над труною
ды гарачай сялянскай сьлязою...
Не малілісь ксяндзы ў касьцеле,
як лажыўся ў магільнай пасьцелі,
толькі хвоі старыя шумелі...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Яшчэ ўчора жывы усьмяхаўся,
з крыўдай, нэндзай народнай змагаўся,
а сяньня абліты крывёю
лёг пад цяжкай магільнай зямлёю...
. . . . . . . . . . . . . . . .

Зазванілі яму зазванілі,
як на вечны пакой вынасілі.
Не званы зазванілі у касьцеле—
галасочкі дзяцей зсірацелых.

. . . . . . . . . . . . . . .

---

АНАТОЛЬ ІВЭРС

# Восень.

Першы раз было ў восень
ён палоскаю ішоў
і уліўся ў гоман сосен,
у задуму галасоў.

Гэта восень, — тая восень —
недаспаны цяжкі сон,
дзе мог бачыць неба просінь
у праталіне сасён...

Маці шыбы выцірае,
запацела штось вакно.
Днём і ноччу пазірае,
мо ідзе яе сынок...

Ды ня йдзе; усход агністы
залатую выліў медзь,
і сады чырвоным лістам
сьцелюць шлях ліхой зіме.

Эх ты, вёска, мая вёска!
Я прыйду цябе сустрэць,
хай надзеі ў сэрцы лоскат
закалышэцца вастрэй!

---

# З далёкіх пералётаў.

У пакоі сьцюдзена і сыра...

Белымі ўзорнымі плямамі лёг мароз на шыбах і толькі ў ледзяных праталінах гараць безканечныя агні вялікага гораду.

Сьлепа гарыць закапцелая лямпа. Кожны раз, як мацней зашуміць за вокнамі вецер, як матыль крыльлямі, пужліва ўзмахвае агонь і пачынаюць, як жывыя, поўзаць па сьценах дзіўныя фантастычныя цені...

Згорбіўшыся на табурэтцы сядзіць бацька. Калі ён сьпіць? Рана і позна я яго бачу за шавецкім варштатам. Скрыпіць навошчаная дратва і, здаецца, без перастанку заганяе малатком цьвякі ў адгладжаную, як рыжае люстэрка, — падошву...

— Мама, раскажы байку!...

Матка пачынае прыпамінаць мне свой прыгожы і багаты зьместам народны эпос: байкі пра зьвяроў, пра людзей, — байкі, якія няраз я ўжо чуў ад яе...

---

„Весела жыць птушкай: дзе захацеў, там і паляцеў... Весела ім жыць у нашай старане“...

Матка гавора, не адрываючыся ад шыцьця. Сухі яе профіль, быццам пад навалай успамінаў, застыў ціха. І мне здаецца, што яна гавора не аб птушках, а пэўна аб людзях, якія ня маюць крыльляў так, як птушкі...

„Восеньню яшчэ стаяць на полі аўсы, ячмяні, — пачынаюць адлятаць птушкі. Лятуць недзе далёка ў цёплыя староны. Куды? Хіба і ведаюць толькі адны птушкі ды нікому ня кажуць“...

„Застанецца гаспадарыць над усім полем, над пірэплатамі, над снапамі адзін гаспадар-Верабей. Весела тады яму жыць! Гаспадарка вялікая, дабра шмат, падскіквае з радасьці ўся вераб'іная сямейка“.

„Толькі позьняй восеньню, пачнуць людзі звезенае з поля дабро малаціць і вераб'ям пакінуць стагі вымалачанай саломы ды і то не на доўга. Зімой занясе сьнегам і поле і стагі. Скорчыцца верабей пад страхой, часамі выляціць пажыраваць на дарогу, ды зноў хаваецца ад сіверу“.

„Так і жыве шэры Верабей да вясны“...

---

„Вясной над першымі праталінамі зазьвініць жаўранак, быццам склікае ўсіх вярнуцца на свае родныя нівы, сенажаці“...

„Папрылятаюць усе з-за далёкіх гораў, лясоў, — куды ніхто апрача ветру і птушак не залятае. Прыляціць і Ластаўка.

„Сядзіць змораная на пустых пірэплатах, аглядае крыльля, ці ня згубіла якой пярыны, памые дзюбам завязаную каля шыі белую хустачку і пачне крычаць на Вераб'я, убачыўшы непарадкі і на полі, і ў агародзе, і ў гумне“...

— „Ніхто ні такі, як Верабей благі!... Ён і ў полі жарэ і ў хату бярэ, пераласавае!“...

„А Верабей пераскікваючы з плоту на плот, апраўдваецца:

— Чым - чым - чым! Чым я вінават?...

„Як - жа на Вераб'я ня крычаць, калі і пад стрэхамі пуста, і на полі пуста і ўсюды непарадкі. Верабей застаўся, Верабей і вінават. Зноў горача Ластаўка бядуе.

— Пакінула паўнюсенька, застала ташчусенька!...

А Верабей сваё:

— Чым - чым - чым?..

— Перапілі, пераелі, пераласавалі! — не перастае залівацца Ластаўка.

„Верабей горача пратэстуе. Нахахліўшыся ён бліжэй бокам пераскаківае з жардзіны на жардзіну.

— Чым - чым - чым! Чым я вінават, чым - чым?...

І так кожнай вясной...

Чымсь далёкім і родным веець на мяне з апавяданьня маткі... Мне здаецца цішэй за варштатам стучыць малаток, цішэй шуміць за вокнамі вецер і быццам у пакоі ня так сыра і сьцюдзена...

МАКСІМ ТАНК.

Вільня, 17.IX 36 г.

---

МАКСІМ ТАНК

# Ужо напеў...

Ўжо напеў каласісты
дагарэў у расе;
восень сьцелецца лістам
на вясковай страсе.

Палажыла матуля
ў торбу мне сухары,
з вёскі ў зрэбнай кашулі
выйшаў я да зары.

Правадзіла з аселіц
на дарогу яна,—
зашумеў штось яленец
і старая сасна...

Шолах руні, дзяразы
і пажоўклых бяроз, —
шмат за пазухай казак,
песьняў родных панёс.

І пяю і плятуся
з сэрцам—скрыпкай жывой—
па палёх Беларусі
з палыновай тугой.

Мо' вярнуся, — ты прасьці
будзеш кужаль вясьне,
не з крушынавым шчасьцем
прывітаеш мяне.

І клянуся вам, сёлы,
што скашу лебяду,
прынясу можа золак,—
без яго не прыйду...

Вільня, 15.IX 36 г.

---

# Восеньню.

Стрэхі мокрыя ўніз апусьцілі рукавы,
пачарнелі гасьцінцаў, дарог каляіны;
дацьвітае лістом і лаза і крушына,
і ў імшарах лясных дагарае атава...

Глядзіць родная даль з пад насунянай шапкі
туманоў, што вісяць дыванам над балотам;
пад дзядоўскім старым і пахіляным плотам
вецер лісьця, як пер'я, ўздымае ахапкам.

А паўднём сонца лістам чырвонай асіны
расьцвіце паміж дрэў ды і знова ў гушчары
ападзе і разсыпіцца ў ціхіх імшарах
па ягодніку сьпелай агнём - журвінай...

Часам прыйдзе і ноч, разсыпаючы зоры,
затлеюць яны над іржавым папарам...

Вечарамі тады дзед на дошчатых нарах
      ўспамінае жыцьцё, што мінула учора...

      І, як памяць сівая далёка ахопе,
ён гавора з тугой аб гушчарах глыбокіх,
бы памінкі спраўляе па соснах высокіх,
      па лагох, па ласіных затоптаных тропах...

      Ды пытае мяне пра блізкіх і знаёмых,
што пайшлі у жыцьцё камяністай дарогай,
і ці шмат, як і я, маладых у вастрогах
      дні свае каратаюць у цэлях сьцюдзёных...

      Дзед глядзіць... Галаву апускае старую,
як сасна пабялеўшая раньнім марозам,
і славы ападаюць, як лісьця бярозаў, —
      славы былі васеньняй на казку сівую.

Вільня, 16.IX.36.

# К. Галкоўскі.

Кампазытар К. Галкоўскі палажыў на музыку вершы многіх беларускіх поэтаў (романсы), гарманізаваў некалькі дзесяткаў беларускіх народных песень і напісаў на беларускія народныя матывы дзьве сюіты: „Дуду“ і „Каханьне“. Для „Вечара беларускай поэзіі і песьні“ палажыў на музыку вершы М. Танка, М. Машары і М. Васілька (Гл. „Летапіс“ № 1-3 за 1936 г.).


К. Галкоўскі.

Кампазытар К. Галкоўскі, сын беларуса з Магілеўшчыны, радзіўся ў Вільні. У 1908 годзе скончыў Пецербургскую консэрваторыю з залатым мэдалем. Кампазыцыю і інструмэнтоўку праходзіў у Рымскага - Корсакава і Глазунова.

Перад вялікай вайной працуе у Вильні, як выдатны музычны дзеяч і прафэсар-дырэктар музычнай школы. Пасьля вайны зноў асядае у Вільні, дзе прысьвячае вольныя хвіліны працам над беларускімі пераважна народнымі песьнямі. Апошні час заняты інструмэнтоўкай сюіты „Каханьне“ для сымфанічнае аркестры.

У гэтай кніжцы „Летапісу“ падаём дзьве народныя песьні Галкоўскага: „Вецер вее“ і „Ах ты, салавей“ ў лёгкім укладзе для народных сельскіх хораў.

# Палесьсе.

Палесьсе — гэта абшар, вялікая частка насельніцтва каторага яшчэ не зусім усьведамлена нацыянальна.

Уплывае на гэта ня толькі вялікшая культурная адсталасьць, чым іншых абшараў з насельніцтвам беларускім ці ўкраінскім, але і тое, што Палесьсе, гэта не які небудзь суцэльны этнічны абшар, а пераходная языковая паласа між Беларусяй і Украінай без выразных межаў. Вельмі часта на Палесьсі — галоўна ў Піншчыне — маем гэткія аб'явы, што ў аднэй вёсцы, а нават з аднаго прозьвішча, адна хата сьведамыя беларусы, другая — сьведамыя украінцы. Чаму? Бо дыялект, на якім гаворыць вёска апрача беларускай асновы мае такжа ўкраінскія асаблівасьці. Ролю каталізатара адыграла тут прэса і кніжка: каму трапіла перш беларуская, той стаўся беларусам, каму ўкраінская, той — украінцам. Але наагул украінскія ўплывы пераважаюць у Паўднёвым Палесьсі, — у Паўночным — беларускія. Гэта аднак не выключае таго, што і ў украінскай частцы ёсьць цэлыя вёскі сьведама беларускія і наадварот.

Слабая нацыянальная сьведамасьць Паляшукоў паддае ахвоты розным асымілятарам для розных спробаў. Тут доўгія гады астаткі расейскіх эмігрантаў пад фірмай Р. Н. О. прабавалі ператварыць паляшукоў на расейцаў, у сваю апору. Існавала купа расейскіх школаў і 3 гімназіі — у Лунінцы, Пінску і Берасьці, з каторых Берасьцейская істнуе і дагэтуль. Цікава, што ў гэтай асымілятарскай акцыі чынна дапамагалі Р. Н. О. і Пэпээсы са сваім, так званым, „Полесским Окружным Комитетом“ у Пінску, выдаючы ўсе свае адозвы і газэту „Красное Знамя“ у Лунінцы парасейску. Потым зьвярнулі ўвагу на паляшукоў польскія асымілятары. Пад час розных выбарных акцыяў выдаюцца адозвы ў „поліскім языку“. Тут зноў на помач асымілятарам спяшаць ППС, выдаючы адозвы на каленесклепленым палескім языку. На будынку „Towarzystwa Domów Ludowych“ можна было бачыць шыльд па „палескі“: „Обчество Людовых Домоў“. На вёсках польскія арганізацыі ўводзяць на прэдстаўленьнях п'есы на „палескім языку“, перарobленыя з беларускага, украінскага і польскага. Нарэшце ўводзіцца „палеская“ нацыянальнасьць. Пад час запісваньня ў установах і ўрадах пішацца нацыянальнасьць „poleska“, або яшчэ лепей, як у косаўшчыне на прыёмачнай камісіі, — „polsko-poleska“. У Берасьці выдаецца польскі тыднёвік „Polesie“, які мусяць выпісваць кожны солтыс і гміна. Тыднёвік праводзіць думку, што палешук не беларус і не украінец, а паляк. — Poleszucy — szczer polski трошкі абрушчаны, дадае там ад сябе нейкі горапрафэсар і „знаўца“ Палесься Р. Горошкевіч.

Разам з гэтым зачынены ўсе беларускія і украінскія культурна-асветныя арганізацыі, як ТБШ і Просьвіта. Не ўдзелена канцэсіі ўкраінцам на Гімназію ў Берасьці, а беларусам у 1929 годзе ў Пінску (хацелі пераняць былую расейскую Гімназію). Адчыненыя ў 1928 годзе на падставе зложаных школьных дэкларацый каля дваццаці утраквістычных і беларускіх школ (Косаўшчына, Пружаншчына і Піншчына) ужо ўсе ліквідаваны. Робяцца спробы ізаляваць беларускае Палесьсе ад сваіх нацыянальна-адраджэнскіх асяродкаў.

Характэрна, што справа стварэньня з паляшукоў асобнага „поль-

скага племені“ на ўзор „górali tatrzańskich“ не новая. Аказваецца, што падобныя спробы адбываліся трохі і раней. Перада мной „Лемэнтар“ для паляшукоў, выданы яшчэ ў 1907 годзе. Уступ надрукаваны, як і ўвесь лемэнтар лацінкаю і украінскаю абэцэдаю на дыялекце Паўночнае Піншчыны. З **Predmowy** даведваемся, што **Na tom lementari powynny uczytysa wsi Połeszuky, bo ich mowa kryszku insza jak Ukraińska, abo Biłoruska.** Далей хваліць латынку і канчае: **tak wy, braty Połeszuky, wybyrajte samy, jaky łytery wam lipsz spodobajutsa...** Вершы і апавяданьні ў канцы надрукаваны ўжо толькі лацінкай.

Гэты лемэнтар калісьці распаўсюджвалі ксяндзы і паны па сёлах Піншчыны. Зьявішча натуральнае, бо лемэнтар быў выданы коштам абшарніцы Констанцыі Скірмунт.

С. ПІНСКІ.

# Беларуская песьня ў Польскім Радыё.

Беларуская народная песьня даўно заваявала сабе пачэснае мейсца сярод славянскай народнай музыкі. Да гэтага ў значнай меры прычыніліся працы і одзывы аб нашых песьнях такіх гэніяльных кампазытараў, як Глінка, Монюшко, Карловіч і Грэчанінаў.

Ня гледзячы на гэта, аднак і цяпер яшчэ не бракуе паглядаў, што народная беларуская песьня гэта нешта такое „простае“, „мужыцкае“, не цікавае, што „панам“ не выпадае гэтым нават займацца. Такога пагляду, як ні дзіўна, трымалася да апошніх гадоў і Польскае Радыё. Колькі дэлегацый хадзіла да дырэктара Віленскай „розглосьні“ пачынаючы ад 1928 году. Ніякія рэзоны і запросіны паслухаць беларускі хор не памагалі. Тагачасны дырэктар Гулевіч, недаступны бюракрат, як Зэўс Олімпійскі, грымнуў у адказ дэлегатам: „Дайце мне 3 тысячы абанэнтаў, тады я пушчу вас у радыё“!

Так справа цягнулася да 1934 году, калі першы раз быў дапушчаны ў Віленскае Радыё хор Р. Шырмы. Лёд быў праломаны, — хор зрабіў вялікае ўражаньне, пасыпаліся ў рэдакцыі беларускіх часапісаў пісьма з ацэнамі першага выступленьня і, відаць, ў скрынку радыёвую таксама, бо там былі адказы слухачам. Але на гэтым справа спынілася зноў на цэлы год. Толькі ў 1935 годзе хор быў запрошаны ў Радыё і то як „рэгіянальны“ дадатак да нейкай прамовы, ці рэфэрату аб песьнях „нашага люду“, а не як самастойная культурная адзінка, як культурны даробак Беларускага Народу. Як чуваць, мінулай зімы на прапанову музычнага кіраўніцтва Радыё была зложана дзьве праграмы на самастойныя канцэрты. Але адну і другую відаць адкінула Варшава. Якімі паглядамі яна кіравалася нам беларусам ня ведама. Затое замест таго каб даць самастойны мастацкі канцэрт беларускай народнай песьні, ладзяцца ўсялякія так званыя „рэгіянальныя“ выступленьні з „rozciąganiem“ народнай песьні, нічога супольнага ня маючым з характарам і духам народнай

творчасьці. Так было з выступленьнем мужчынскага „рэгіянальнага“ хору нейкага пана Дмітрава, які так скалечыў у мінулым годзе праз радыё песьню „Ці сьвет, ці сьвітае“, што многія слухачы, якія цэняць і шануюць народную творчасьць, да таго былі абураны, што, расказваюць, хацелася кулаком стукнуць па апарату. Так бывае і з іншымі „рэгіянальнымі“ чужымі для беларусаў выступленьнямі. Адказнасьць за гэта поўнасьцю нясе музычнае кіраўніцтва Радыя, якое так густа корміць абанэнтаў рознымі Данаўскімі хорамі, фокстротамі, тангамі ды гавайскімі гітарамі. Усе слухачы, якія ня хочуць хварэць на сучасную музычную неўрастэнію адвярнуліся ад сваіх „разглосьняў“ і пачалі лавіць хвалі заграні́чных станцыяў. Аб гэтым пачала біць ува ўсе званы польская прэса:

„Правінцыя на Менск круціць!“ Адкрыцьце зроблена, але якая прычына такой неўвязкі, такога разрыву Польскага Радыя са сваімі слухачамі, аб гэтым не гаворыцца. Досыць таго, што на парадак дня ўсплываюць зноў справы „рэгіянальных“ песень і пагаданак праз Радыё. Але ці гэта паправіць сытуацыю, калі і надалей будзе Радыё кіравацца не мастацкімі паглядамі на нашу нацыянальную песьню і музыку, а нейкімі іншымі няведамымі меркаваньнямі.

Робяцца ўжо спробы з боку Польскага Радыя направіць сваю рэпутацыю, як музычнага выхаваўца масаў. Але занадта малыя дозы лякарства адпускаюцца, бо пакуль што быў толькі адзін такі канцэрт „разрыўковы“ першага верасьня. Фактычна гэта канцэрт беларускі, бо вязанка песень Віленшчыны для камэральнае аркестры новага кампазытара Якайціса гэта вязанка агульна беларускіх песень. Часам дзіўным выглядае такое хаваньне праўды.

Але цяпер аб самай кампазыцыі і канцэрце.

Якайціс — кампазытар новы і малазнаны, у дадатак відаць знаходзіцца ў палоне, так званай „новай музыкі“, якая пішацца, каб ніхто яе не разумеў. Там дзе патрэбна выяўленьне яснасьці і плястычнасьці народнай творчасьці, там кампазытар тасуе шырокія пасажы ўсяго аркестровага масыву, абрывае мэлёдыі не прадумаўшы іх да канца, не дае выказацца ўсяму багацьцю аркестровых красак, няма тых мадуляцый, якія заставілі-б пяяць аркестру, выяўляць настроі, якія так цесна палучыў народ у тонах мэлёдыі і поэзіі. Адным словам кампазытар глянуў павярхоўна на сваю „вязанку , падыйшоў да працы досыць па дылетанцку, а мог зрабіць гэта куды лепей, бо мае для гэтага ўсе дадзеныя. Часамі сярод незразумелага хаоса прабіваліся, як прамень сонца сярод чорных хмараў, ясныя і прыгожыя моманты; хацелася каб кампазытар давёў іх да лягічнага канца, аж раптам налятае навала і абрывае музычную думку. Дасадна было слухаць.

Пэўныя заганы можна паставіць і праф. Часноўскаму, які вёў аркестру. У дырыжора пераважалі толькі два тэмпа: allegro (скора), або andante (памалу). Між тым, такія песьні як „Рабіна“, „У лузі каліна“ і летнія мэлёдыі, кождая мае свае асобныя настраёвыя адцені, да якіх належыць і адпаведнае тэмпо. Ня можна лучыць у адно тэмпо лірычны сум „Рабіны“ з шырокай элегіяй летніх мэлёдыяў, або бадзёрымі настроямі „Каліны“. Адна толькі мэлёдыя „Замуж пайсьці“ мела сваё належнае тэмпо

Канцэрт надаваўся з Вільні.

У гэтым самым „разрыўковым“ канцэрце дзьве беларускія песьні

—„Зялёны“ дубочак“ і „Чаму мне ня пець“ — прапяяў з Варшавы тэнар Забэйда-Суміцкі. Чыя гарманізацыя гэтых песень Радыё не падавала. Але выкананьне мастацкае, але інтэрпрэтацыя гэтых песень здаровая, сьвежая, прыгожая! З першага слова чуваць было, што песьні выліваюцца з беларускае душы. Наагул пра артыста можна сказаць адно — гэта культурны тэнар эўрапэйскага складу, зорка якога відаць толькі падымаецца на вакальным небасхіле. Пажадана, каб Польскае Радыё па магчымасьці часьцей запрашала паважнага артыста на беларускія гастролі. Пара даваць мастацка-культурныя аўдыцыі творчасьці нашага Народу, а не такое, як часта бывала дагэтуль „рэгіянальна-кустарнае рамясло“, ды яшчэ з няўдалымі перакладамі на польскую мову.

Вяртаючысь да аркестравай кампазыцыі Якайціса можам толькі зазначыць, што добра даваць магчымасьць выказацца новым кампазытарам, але толькі не ў такіх рэпрэзэнтацыйных на ўсю Польшчу канцэртах ды яшчэ ад імя Віленшчыны (чытай беларускіх) і асабліва тады, калі ёсьць працы такіх вялікіх маэстро, як Грэчанінаў, або віленскі кампазытар Галкоўскі, ці праф. Варшаўскай Філярмоніі кампазытар Ст. Казура, у якога да слова сказаць цэлая опэра „Powrót“ саткана з беларускіх народных мэлёдыяў.

GUARNERY.

Варшава, 2.IX 1936 г.

# Агульны Сход ТБШ.

Дня 5 ліпня адбыўся Агульны Гадавы Сход ТБШ, на якім выбрана новая Галоўная Управа, у склад якой увайшлі: Старшыня Ф. Стэцкевіч, Віцэ-старшіні — Кэпель М. і Тумаш В., сэкрэтары — Склубоўскі В. і д-р Грышкевіч Фр., скарбнік — Шырма Рыгор, сябры: Пяткевіч М., д-р Марцінчык М., Кізевіч П., Кузьмін С., Паўловіч С. і Косьцевіч М. і Наглядная Рада: Хацяновіч Макар, Манцэвіч М., Ламашэвічанка Н., Будзьчанка І. і Каткавічанка А.

У справе сучаснага палажэньня Т-ва ўсе прысутныя на Сходзе прышлі да агульнага вываду, што тое ненармальнае палажэньне, у якім цяпер знаходзіцца арганізацыя, створана вонкавымі, варожымі Т-ву дзейнікамі і што задачай новых уладаў Т-ва павінна быць: натужэньне ўсіх сваіх сіл для перамогі ўсякіх перашкод на дарозе нармальнай культурна-асьветнай працы.

Пасьля дыскусыі Сход аднагалосна прыняў наступныя пастановы.

Сход уважае, што ўступаючая Галаўная Управа ў так цяжкую пару для жыцьця Т-ва, якой былі апошнія мінулыя гады, — вывязалася з сваіх задач здавальняюча, ня гледзячы на яе здэкамплектаваньне і нягледзячы на нязвычайна цяжкія гістарычныя абставіны, у якіх прыходзілася працаваць, і таму Сход удзяляе ўступаючай Галоўнай Управе абсолюторыюм з падзякай.

За галоўныя задачы для Новых Уладаў Т-ва Сход стаўляе:

1. Ажывіць Т-ва арганізацыйна, робячы ўсе патрэбныя натугі для масавага адкрыцьця гурткоў, дзе яны існавалі, але пазьней былі зачынены, а такжа ў новых мейсцох; рабіць стараньні ў справе адвешаньня завешаных гурткоў і Акружных Упраў. Для гэтай працы павінны быць змабілізаваны ўсе арганізацыйныя сілы.

2. Новыя Улады Т-ва павінны з асаблівай рупнасьцю падыйсьці да справы роднай школы, зьвяртаючы адначасна ўвагу на пазашкольную асьвету і наагул на ўсякую культурна - асьветную працу сярод шырокіх мас беларускага народу.

3. Новыя Улады павінны імкнуцца да якнайхутчэйшага скліканьня новага наступнага Агульнага Сходу, апёртага ўжо перадусім на дэлегатах з мяйсцоў і на гэтым сходзе павінны прадставіць праэкт новага Статуту Т-ва, прытарнаванага да ўмоваў сучаснага жыцьця.

Сход адбыўся пад старшынствам М. Кэпеля пры сэкратары В. Тумашу.

Новая Галоўная Управа, на сваім арганізацыйным паседжаньні, дня 7 ліпеня разлядала справу, кінутай у прэсе думкі злучэньня ТБШ і БІГіК. Галоўная Управа уважае, што ТБШ і БІГіК маюць розныя ідэолёгічныя асновы, розную традыцыю і розны круг уплываў і дзеля гэтага Галоўная Управа выказваецца проці зьліцьця гэтых дзьвёх арганізацыяў і лічыць, што магчымасьці да гэтага ня існуюць.

Але затое Галоўная Управа ўважае, што найцясьнейшае супрацоўніцтва паміж гэтымі арганізацыямі на полі культурна - асьветнай працы ня толькі магчымае, але нават пажаданае і канечнае.

Галоўная Управа ўважае, што гэтае супрацоўніцтва перадусім пажадана (памінаючы змаганьне за родную школу, дзе гэтае супрацоўніцтва ўжо існуе) у галіне пазашкольнай асьветы, выдавецкай працы, популярных рэфэратаў, прадстаўленьняў і хору.

---

# Чаму мы дамагаемся роднае школы.

Пэдагогіка — даўно сказала сваё аўтарытэтнае слова аб значэньні роднага языка ў школе.

„Язык — лепшая кветка ўсяго духовага жыцьця народа, якое пачынаецца далёка за граніцамі гісторыі. Гэтая кветка ніколі не вяне, але вечна распускаецца.

У языку адухаўляецца ўвесь народ і ўся яго краіна; у языку творчаю сілаю народнага духа пературараецца ў мысьль і вобраз неба бацькаўшчыны, яе паветра, яе фізычныя зьявы, яе клімат, яе поле, горы і даліны, яе лясы і рэкі, яе буры і навальніцы — увесь той глыбокі, поўны мысьлі і пачуцьця голас роднае прыроды, каторы гаворыць так громка аб любові чалавека да яго бацькаўшчыны, каторы выказваецца так ясна ў родных песьнях, у словах народных поэтаў. Але ў сьветлых, празрыстых глыбінях народнага языка адбіваецца не

адна прырода роднай краіны, але і ўся гісторыя духовага жыцьця народа. Пакаленьні народа праходзяць адно за другім, але вынікі кожнага пакаленьня застаюцца ў языку народа, як спадчына для патомкаў. У скарбніцу роднага языка складаюць адно пакаленьне за другім плады глыбокіх парываў сардэчных, плады гістарычных падзеяў, пагляды, сьляды пержытага гора і пержытай радасьці, — словам, увесь сьлед свайго духовага жыцьця народ ашчадна захоўвае ў народным слове. Язык ёсьць самая жывая, самая моцная сувязь, якая ўсе пакаленьні, якія аджылі, жывуць і некалі будуць, злучае ў адно гістарычнае жывое цэлае. Язык ня толькі выражае сабою жыцьцёвасьць народа, але ёсьць іменна самае гэтае жыцьцё. **Калі зьнікае народны язык — народу болей няма.** Пакуль жыве ў вуснах народа язык народны, датуль будзе жывым і народ. Вывучаючы родную мову, дзіця вывучае ня толькі словы, але здабывае многа паняцьцяў, поглядаў на прадметы, многа мысьляў, мастацкіх вобразаў, лёгіку і філёзофію языка, і успрымае гэта лёгка і хутка, за два-тры гады толькі, што і паловы таго ня можна ўспрыняць за дваццаць лет пільнага і мэтадычнага вучэньня. Такі гэты вялікі народны пэдагог — роднае слова“!

Так пісаў яшчэ ў мінулым сталецьці пэдагог К. Ушынскі.

Ува ўсім цывілізаваным сьвеце родны язык — ёсьць асноваю, якая лучыць усе прадметы школьнага курса, якая праходзіць праз усе яго часьці.

Трэба ведаць, як любоўна народы распрацавалі праграмы языка ў сваіх школах! Французы, немцы, ангельцы, расейцы будуюць усё ўзгадаваньне на скарбах роднага языка, які знаходзіць самае прыгожае выяўленьне ў роднай літэратуры. З якім захопленьнем і поэтызмам пішуць палякі ў школьных чытанках аб сваім польскім языку! І як яны гневаюцца на чэхаў і літоўцаў, што тыя, калі верыць польскай прэсе, ціснуць у сябе польскую меншасьць, не даюць каб цьвіла прыгожая кветка польскай мовы! Але затое, колькі няпраўды і злосьці выливае тая-ж польская прэса, на беларусаў за нашы слушныя, законныя дамаганьні правоў для беларускага языка, для Беларускага Народу. Або ў лепшым выпадку стараецца замаўчаць усе, што датычыць беларускай справы.

Пэдагогіка кажа, што народ перастае жыць, уміраe, калі вырваць у яго родны язык.

Дзяржаўныя законы, прызнаючы за народамі права на свабоднае разьвіцьцё іх мовы, санкцыянуюць гэтае права і за намі, беларусамі.

Але жорсткая сапраўднасьць не дае магчымасьці праводзіць іх у жыцьце.

Што-ж тады рабіць?

Пазастаецца два шляхі: або павольнае нацыянальнае кананьне, або ўпартае змаганьне за сваю мову. І вось беларусы, маючы за сабою маральнае і юрыдычнае права, выбіраюць гэты апошні шлях.

Нічога ня значыць, што камусьці не падабаецца, што мы хочам жыць і не адставаць ад другіх.

У нас ёсьць сільная зброя для перамогі — наша вялікая Адраджэнская Ідэя. Яшчэ няма на сьвеце такой сілы, якая магла-б перамагчы народную Праўду. Гэта нічога, што шляхі цярністыя, па якім ходзіць яна.

Новае жыцьцё родзіцца ў цяжкіх цярпеньнях.

Мы гэтага не павінны баяцца, памятуючы тое, што Праўда на працягу гісторыі чалавецтва ўзыходзіла ня раз на Галготу і адтуль сьвятлом сваім асыпала крыжовыя шляхі народаў, выводзіла змучанага чалавека з няволі.

Гэтая Праўда і нас, беларусаў, пабуджае шукаць свайго належнага мейсца пад сонцам.

Мы хочам шчасьлівага, людзкага жыцьця для свайго Народу, мы хочам нароўні з другімі народамі збудаваць свой Дом Культурны, мы хочам для сваіх дзяцей, для маладых пакаленьняў перадаць цэнныя скарбы, якія выдабылі з нетраў народных нашы лепшыя прадстаўнікі — песьняры-поэты, мастакі, вучоныя, — таму мы і дамагаемся роднае школы, роднае мовы.

ВУЧЫЦЕЛЬ.

---

# Пад небам Беларусі.

*(З студэнцкіх вандровак па Віленшчыне і Наваградчыне)*

Кончылася лета, кончыўся адпачынак—летнія вандроўкі па Беларусі. Ізноў варочаемся ў цесныя душныя гарады, ў муры ўнівэрсытэцкія, выкладовыя салі, чытальні, да сваей працы, да сваіх кніжак. Але варочаемся ня тыя самыя, а куды багацейшыя тым багацьцем, што далі нам летнія вандроўкі — больш поўтысячы кілёмэтраў, пройдзеных і праеханых сьцежак і дарог Беларусі. Пасьля гэтага слова „Беларусь“ у вялікай меры набрала больш канкрэтнага зьместу, прынамсі, што да Наваградчыны і Віленшчыны.

Яе географічную карту можна ўжо сабе выабразіць ў жывой плястычнай форме: зьведаных вёсак, мястэчак, пазнаных рэк і вазёр, пройдзеных пушчаў, дарог і бездарожжаў. Ніколі не забудзем то сініх, то сталёва-шэрых пераліваў Сьвітазі, Кромані, Нарачы і Пастаўскіх вазёраў, выгібастага Нёмна, шумы пушчаў Налібоцкай, Рудніцкай!

Яе эконамічную географію можна ілюстраваць сабе вобразамі сечанай і зсечанай пушчы Налібоцкай, пра якую нам у Ярэмічах казалі: — „Налібоцкая пушча? Якая там ужо пушча! Зьелі Налібоцкую пушчу“!. Нават смаляныя пні пасьля ссечаных дрэваў выварачваюць, каб у смалярні выжаць з іх тонны чыстай, як сьляза, тэрпэнтыны, бочкі смалы і дзёгцю. Бачылі сотні сасновых і хваёвых плытоў, гнаных Нёмнам — усё на „багаты“ Захад, на Захад! Бачылі вялікія рыбныя вазёры, якія забіралі ад іх спрадвечных рыбакоў і гаспадароў. І ў канцы-канцоў шырокае роднае поле, поле, пакрытае морам збожжа, лесам коп і снапоў, — ці то зрэзанае ў вузенькія палоскі— вясковае, ці то аграмадныя абшары-лятыфундыі князёў Радзівілаў, графаў Пшэздзецкіх, Скірмунтаў, Храптовічаў, Тышкевічаў і іншых.

А каб уявіць сабе рэлігійную мозаіку, хопіць прыпомніць гордыя клясычныя калёны, стромкія готыцкія, спакойныя рэнэсансавыя і пышныя барокавыя каталіцкія касьцёлы, зграбныя цэрквы права-

слаўныя і простыя стараверскія, старыя жыдоўскія сынагогі, малыя экзотычныя караімскія кінэсы і татарскія з мінарэтамі мэчэты.

Туды кіруюцца мільёны, каб сагнутыя да зямлі, на каленках, крыжам на зямлі лежачы, у малітвах вучыліся цярплівасьці, лагоднасьці, пакоры; каб там пакідалі паросшую ў сэрцы вякамі пякучую крыўду...

А гісторыя?... Гісторыя гаворыць з курганоў, руінаў, песьняў і з легэндаў, легэндаў тых найдаўнейшых — пра затопленыя на дне вазёраў войскі караля Батуры, гарады, сёлы з людзьмі, цэрквамі і скарбамі, пра схаванае заклятае золата, пра зачараваныя магілы і курганы.

І з тых бліжэйшых, але яшчэ больш панурых, жудасных лягэндаў — пра прыгон. Як паны гандлявалі людзьмі, у карты праігрывалі, мянялі на гончых сабак, білі, сяклі розгамі і кнутамі, босых на распаленыя бляхі стаўлялі, „правам" першай ночы і зусім бяз „права" забіралі дочак, жонак, каханых дзяўчат...

— ...Найгорай, што ня можна вясьці ніякой культурнай працы... Гурток ТБШ, як ведама, закрылі. Пасьля прабавалі некалькі разоў адкрыць — не пазволілі. Гурток БІГіК у суседняй вёсцы, і той зьліквідавалі .. Сэрца баліць,жаль бярэ, гледзячы, як моладзь дзічэе— водка, самагонка, разбоі.

А даўней, як быў гурток ТБШ — прадстаўленьні, лекцыі, хор, газэты, бібліотэка, — пра разбоі ані слуху. Але нічога — ператрываем... Толькі вы там у Вільні мацней рухайцеся і трымайцесь... І так усюды. Там-сям яшчэ толькі захаваліс некаторыя коопэратывы.

Цёмны вечар. Сядзім перад гумном, сабіраемся спаць на сене... Дзяўчаты зацягваюць песьню... Карыстаючы з начной цемры; прышло некалькі вясковых хлопцаў, дзяўчат — хочуць песьняў паслухаць. Пытаемся:— Чаму ў вас нейк не пяюць? Цяпер-жа жніва"?...—Пяяць ня можна... І праўда—ціхія там летнія вечары... Песьняў ня чуваць... ніхто нат' голасу не падасьць..

---

Возера Кромань. Сядзім на беразе.. Вочы лашчыць адбітая ў вадзе сінь пагоднага неба. Ціхае лясное вазярко, якіх многа ў Беларусі. Толькі ўсё мімаволі плывуць, выплываюць, сплятаюцца з шумам соснаў прыбярэжных трывожныя думы, думы невясёлыя пра „легэнды" найнавейшыя, найбліжэйшыя, найбольш балючыя...

---

Сваю супольную вандроўку-валацугу закончылі.

Пасьля зімовай працы адпачылі, змацавалі, загартавалі свае мускулы на дарогах і бездарожжах, ветрам палёў Беларусі свой твар апалілі, пазналі, зьведалі народ, яго жыцьцё, яго гора, радасьць і працу.

Пазналі, што Беларусь — край пекны і багаты, толькі бяда і цемра ў ім свае гнёзды пазьвівала. Пазналі, што трэба ўсё, усё— і свае сілы новыя, што здабылі на прасторах Беларусі, — аддаць, кінуць на працу народную, цяжкую, упорыстую.

Таго нас вучыць валацуга пад сінім небам Беларусі.

АЛЕСЬ КАЎКА.

# „ПЕРШЫЯ ЗЕРНЯТКІ“.

Абставіны беларускага культурнага жыцьця ёсьць настолькі цяжкія і неспагадлівыя, што кожная праява культурнай дзейнасьці беларускага грамадзянства мае ня толькі акрэсьленую культурную цэннасьць, але, і гэта найважней, стварае той беларускі народны капітал, які зьяўляецца адзіным пераможным дзейнікам у будаваньні сьветлай будучыні нашага Народу. Кожная, хаця-б найменшая, здабытая Беларусамі культурная пазыцыя будзе заўсёды аснаўною цэглінаю ў Народным Доме. Дзеля гэтага „Першыя Зерняткі“ Сяргея Паўловіча, у нашых абставінах, гэта перадусім актыўнае выступленьне культурнэе абароны, а пасьля ўжо і „буквар“ і „граматка“. Гэтак толькі павінен падходзіць кожны чэсны Беларус да гэтае, здабытае беларускім грамадзянствам, новае культурнае пазыцыі, бо іншы падход будзе заўсёды ня толькі памылковым, але, нават, сьведама шкодным з наяўнасьцю акрэсьленых палітычных тэндэнцыяў, варожых Беларускаму Народу.

Усё беларускае грамадзянства і ўся беларуская незалежна-грамадзкая і літэратурная прэса прыняла „Першыя зерняткі“ С. Паўловіча надта прыхільна. Гэты буквар для беларускіх дзетак заўсёды будзе дзейным спосабам абароны маладой душы ад чужацкіх уплываў; з гэтага якраз культурнага гледзішча кожны Беларус ацэнівае працу С Паўловіча. Лёгка было прадбачыць, што палянафільскі „Родны Край“ моўчкі не ператравіць выхаду ў сьвет беларускага буквара. Знаючы прыслужніцтва „Роднага Краю“, было-б наіўна з беларускага боку рабіць яму нейкія закіды. Трэба мець нацыянальную гордасьць, каб паважна ацаніць кожную культурную з'яву нацыянальнага жыцьця.

Гэтай гордасьці і нават звычайнай грамадзкай прызваітасьці „Родны Край“ ня мае, таму ён зусім моўчкі абмінае цэннасьць культурнага фактару „Першых зернятак“, а хапляецца толькі за сухі слоўны выклад, якога і сам ня змог добра асіліць. Каб зганіць і накінуць цень на паважанага аўтара за яго ўзапраўды-ж вартасную кніжку, „Родны Край“ так далёка зарапартаваўся ў палітычныя гушчары, што дайшоў аж да уральскіх лесазагатовак. Дарэмная праца. Няхай лепей пахваліцца, дзе падзеўся яго многалетні рэдактар.

Д-р Ф. ГРЫШКЕВІЧ.

---

# Ад Школьнага Сэкрэтарыяту.

Прабег Школьнай акцыі высоўвае патрэбу зьвярнуць увагу Грамадзянства на наступнае:

1. Усе паўнамоцнікі і культурныя працаўнікі на вёсцы абавязкава павінны паведамляць Шк. Сэкрэтарыят аб усім, што датычыць беларускага школьніцтва і складаньня школьных дэкларацыяў. Трэба пісаць дакладна нават аб самых дробных рэчах, аб усялякіх перашкодах незалежна ад таго, зложаны дэкларацыі Школьнаму Інспэктару

ці не. Ня маючы ўсіх самых дакладных дадзеных, Шк. Сэкрэтарыят ня зможа пакіраваць школьную акцыю на адпаведны шлях. Дзеля гэтага безадкладна прысылайце справаздачы заказнымі пісьмамі.

2. У выпадку, калі бацькі падпісалі дэклярацыі, а войт катэгарычна адмовіўся сьведчыць падпісы, трэба падаць прычыны, якія сталі на перашкодзе да асягненьня нашых законных правоў, і разам з дэклярацыямі прыслаць у Школьны Сэкрэтарыят. Паведамленьні такія падпісваюць паўнамоцнікі і сяляне школьнага абводу.

3. Заявы, якія далучаюцца да школьных дэклярацыяў пісаць у 3-х экзэмплярах. Адзін з дэклярацыямі падаецца школьнаму інспэктару, другі з паквітаваньнем на зданыя дэклярацыі прысылаецца у Шк. Сэкрэтарыят, а 3-ці, як копія. перахоўваецца ў паўнамоцніка.

4. Калі хто не атрымаў на свае пісьма адказу ад Шк. Сэкрэтарыяту, ці пачкі з дэклярацыямі, гэта значыць, што пісьмо і пачка не папалі па адрэсу. Дзеля гэтага трэба пісаць нанава ў Шк. Сэкрэтарыят заказным, ці шукаць аказыі, каб асабіста зрабіць ўсё ў Сэкрэтарыяце.

---

# БЕЛАРУСЫ!

Т-ва Беларускае Школы — гэта найстарэйшая беларуская культурная арганізацыя, якая ў гісторыі вызваленьня Беларускага Народу запісала адну з наймагутнейшых картаў — зьвяртаецца сягоньня да Вас з вялікім заклікам.

Памажэце!

За 15 гадоў істнаваньня і працы Т. Б. Ш. ніхто з Беларусаў ніколі ня быў глухім на тэбэшоўскі заклік. Дзе-бы ня быў Беларус, ці ў далёкай, беднай і глухой вёсцы, ці ў сырых падвалах вялікага места, або нават у далёкай чужыне, — заўсёды і ўсюды голас ТБШ парываў думку да Волі, Асьветы і Шчасьця. Як у гады магутнага размаху тэбэшоўскага жыцьця, калі не было ні адной беларускай хаты, дзе-б не было беларускай кніжкі і песьні, як у годы вялікага гора, калі ня было беларускай хаты, дзе-б горкі жаль і сум не разьдзіраў сэрца над доляй ТБШ, — так сяньня не павінна быць ніводнай беларускай душы, якая засталася-б глухой на гэты заклік.

Панурыя годы пакінулі за сабой ня толькі сьлед болю: яны зруйнавалі і зьнішчылі зусім эканамічную базу нашае культурнае арганізацыі. Калі ТБШ мела тысячы сяброўскіх складкаў, тады магла высылаць на вёску сотні бібліятэкаў. Але надыйшоў цяжкі час масавай ліквідацыі, забраныя рэчы і грошы да гэтага часу ня зьвернены, сяброўскія складкі абарваліся. Сябры застаўшыхся гурткоў змаглі

сваімі складкамі і ахвярамі выдаваць толькі некалькі разоў у год „Летапіс ТБШ". На мейсца нармальнага разьвіцьця працы — наступіла балючае заміраньне.

Гэтак далей быць ня можа. Жыцьцё культурнае арганізацыі мусіць разьвіцца і змагутнець. Народ зможа перамагчы ўсе перашкоды, бо народнае жыцьцё ёсьць сільнейшае за ўсе злыбяды дня.

Галоўная Управа Т. Б. Ш.—добра знаючы стойкасьць народнага духа і вялікую ахвярнасьць Беларускага Народу — пастанавіла зьвярнуцца да свайго беларускага народу з заклікам.

Беларусы! Зьбірайце штомесячныя ахвяры на „Беларускі Культурны Фонд" пры ТБШ. Хай між намі ня будзе ніводнага жывога чалавека, які ня даў-бы хаця адзін грош у месяц на беларускую культуру. Нас ёсьць каля 3-х мільёнаў у Польшчы. Калі кожны з нас дасьць адзін грош у месяц, то беларуская кніжка і часапіс зноў будзе на стале пад кожнай беларускай страхой. Гэты культурны беларускі самападатак павінен стацца гордасьцяй кожнага беларуса. Няхай з кожнага вясельля, вечарыны і забавы плывуць ахвяры на „Беларускі Культурны Фонд пры ТБШ"! Прэч з гарэлкаю, якая забівае годнасьць чалавека! Няхай беларуская кніжка і газэта паднімае народную душу! Перадусім Ты, Беларуская Моладзь, павінна выпаўніць гэты культурны абавязак: хоць па адным грошыку кожны месяц на „Б.К.Ф."!

Галоўная Управа ТБШ глыбака пераконана, што гэты заклік абыме ўсю Беларусь і станецца магутным Народным будаваньнем сьветлай будучыні.

Штомесячны грош хай будзе гордым абавязкам кожнага Беларуса!

Ахвяры трэба прысылаць на наступны адрэс: Вільня, Каралеўская вул. № 3-8, „Летапіс", на „Б.К.Ф.".

**Галоўная Управа**
**Т. Б. Ш.**

*Вільня 1.IX.36 г.*

---

# Наша хроніка.

**Агульны гадавы Сход** Віленскага Цэнтральнага Гуртка адбыўся 14 чэрвеня. У прэзыдыюм новае Управы гуртка выбраны старшыня В. Склубоўскі скарбнік — Русецкі А., сэкрэтар д-р Фр. Грышкевіч і Рэвізыйная камісія ў складзе: С. Паўловіч, М. Кэпель і А. Каткавічанка.

Управа Цэнтральнага Гуртка 1 ліпеня прыняла пастанову палажыць высілкі, каб у бягучым

годзе належна адсьвяткаваць 15 летні юбілей ТБШ і 10 летні — Віленскага Цэнтральнага Гуртка.

Усе сябры Цэнтральнага Гуртка ТБШ і ўсе сымпатыкі, якія жадаюць стаць сябрамі гуртка, павінны перарэгістравацца да 15 лістапада г. г. Па дэкярацыі трэба зьвяртацца па адрасу Цэнтральнага Гурка: Вільня, Каралеўская вул. 3-8,

Старшыня і Сэкрэтар Управы Гуртка дыжуруюць кожную сераду ад 14 да 15, да якіх і трэба зьвяртацца ў справах Цэнтральнага Гуртка.

---

*** В. **Запольле,** Пачапаўскае вл. Як толькі наша вёска дастала адозвы беларускіх культурна-асьветных арганізацый на дамаганьне роднае школы, вучыцель утраквістычнае школы Рэксуляк з небывалай энэргіяй узяўся зьдзіраць і нішчыць іх. Аднак гэта ня можа стрымаць нашых людзей ад дамаганьня роднае беларускае школы. І вось чаму. Калісь у нас была свая школа беларуская, свае арганізацыі. Ладзіліся прадстаўленьні, вечарыны. А цяпер дзень у дзень дымяць бр́аваркі, працуюць дрожджы, а людзі сушаць муры грудзямі сваімі на Слонімскай у Наваградку. Ад часу да часу хапаемся ізноў да работы. Сёлета мінулымі сьвятамі хацелі паставіць „Змагары за ідэю". Але перашкоды напаткалі з боку Старасты і таго-ж самага кіраўніка школы і прэзэса Стражы Пажарнай у аднэй асобе. Людзей сабралася шмат, нават з пад Наваградка былі госьці, — толькі дазволу нам не далі.

*** У м-ку **Любча,** 8.VIII адбылося выступленьне беларускага хору пад кіраўніцтвам ст. Шэўкі.

*** У в. **Запольле, Карэліцкае вол.** 13.VIII. адбыўся спэктакль-вечарына. Публікі сабралася асоб 800, так што рэміза Стражы Пажарнай не магла зьмясьціць усіх. Прадстаўленьне арганізавана хлапцамі і дзяўчатамі, сябрамі былога гуртка ТБШ.

*** У м-ку **Нягневічы** 23.VIII г. г. адбыўся спэктакль-вечарына. Адыгралі п'есу Янкі Сазановіча „Першы Крок" і дэклямавалі вершы М. Танка і М. Васілька. Прадстаўленьне ладзілі паплаўцы пад кіраўніцтвам аўтара п'есы.

*** У в. Паплавах моладзь зарганізавала беларускую драматычную Сэкцыю, якая што два тыдні мае ладзіць спэктаклі-вечарыны. Кіраўнік Я. Сазановіч. Жадаем шчасьлівай працы.

*** У в. **Купіцк,** Любчанскае вол. моладзь да гэтага часу мела дрэнную прывычку да „сівухі". Цяпер, калі сарганізавалі Профсаюз Работнікаў Драўлянага Промыслу, аднагалосна ўхвалілі ня піць гарэлкі. За нарушэньне гэтае пастановы вызначана кара: першы раз 5 зл., другі — 10, трэці — 15. а за чацьвертым разам пазбаўляецца працы і выдаляецца з Саюзу.

*** У м-ку **Нягневічы** арганізуюцца „Беларускія Вячэрнія Курсы для дарослых"; арганізатарамі курсаў — Я. Сазановіч, М. Петрыкевіч, Р. Лецко, абсольвэнты Н Б. Г. і Я. Першукевічанка — В. Б. Г.

*** **Складаньне** школьных дэклярацыяў у Нягневіцкай вол. праходзіць нармальна. Вёскі Паплавы і Падкасоўе здабылі подпісы войта; вёскі Ляхава, Харосіца, Розкаш, Лаўрышава, Лозкі, Вярбачы і др. таксама сьпяшаюць не адставаць.

* * * У **Карэліцкай** воласьці (апрача самых Карэліч) вельмі паважна стаіць справа змаганьня за родную школу і добра йдзе складаньне школьных дэкларацыяў.

* * * У **Любчанскай** воласьці школьная акцыя ажывілася і рушыла з мёртвага пункту ў канцы жніўня. Ужо разобрана болей 3000 школьных дэкларацыяў. Актыўную культурна - асьветную працу вядуць былыя вучні Н Б.Г. пад кіраўніцтвам Ў. Сіўка.

---

* * * Вёскі **Каранішачы** і **Задубеньне**, Вялейскага павету падалі школьнаму Інспэктару завераннымя войтам школьныя дэкларацыі.

* * * 17.V. **Задубенскі** гурток меўся ладзіць беларускае прадстаўленьне ў м-ку Крывічах, але, як заўсёды, саля Пажарнай Стражы для беларусаў занятая. Паслалі да старасты за дазволам на в. Пузыры. Дазвол атрымалі. Прыехалі ў вёску і чуем, што і тут Пажарная Стража нешта ладзіць, каб нам перашкодзіць. Вучыцель і вучыцелька запрашаюць хлапцоў і дзяўчат на каву, найнялі музыканта. Усё-ж мы перашкоды перамаглі і спэктакль адбыўся. Нам ня йшло аб грошы. Усе арганізатары згадзіліся пусьціць публіку дарма, а кошты пакрыць ўласнымі складкамі, але некаторыя хлапцы, якім шчырая падзяка, адгукнуліся на наш кліч і гурбай прывалілі да касы купляць білеты. Па першым акце зьявіўся п'яны солтыс праверыць дазвол. За ім пажарнік таксама п'яны аглядаць сцэну. Рабілі ўсялякія прычэпкі. Адным словам начальства.

---

* * * 24 ліпеня **сканфіскаваны** зборнік Максіма Танка „На этапах". Гэта прыгожая, надта добра і акуратна выданая кніжка з уступным артыкулам і партрэтам аўтара.

* * * **Пастановаю** Акружнага Суду ў Вільні на неяўным паседжаньні завешана беларуская двутыднёвая газэта „Наша Воля".

* * * **Дэканат** юрыдычнага факультэту У. С Б. прызнаў студэнту В Склубоўскаму — 70 зл. нагароды за сэмінарыйную працу „Рэвалюцыя з гледзішча праўнага і соцыялягічнага".

---

СПОЎНІЦЕ СВОЙ АБАВЯЗАК —
ПРЫСЫЛАЙЦЕ СКЛАДКІ І АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦТВА.

---

# Усячына.

## Колькі людзей у Эўропе.

У 1800 годзе ў Эўропе жыло каля 188 мільёнаў людзей; у 1850 г. ужо 266 мільёнаў; у 1900 г. — 400 мільёнаў; у 1910 г. — 448 м.; у 1920 г. — менш-больш столькі сама (сусьветная вайна!); у 1933 г. — больш 519 мільёнаў. Значыцца за апошнія 133 гады людзей у Еўропе пабольшала амаль ня ў тры разы.

## Узбраеньні.

Эўрапейская прэса падае статыстычныя дадзеныя аб вайсковым лётніцтве у паасобных дзяржавах, якія на пачатак 1936 г. ўжо мелі:

| | | |
|---|---|---|
| Францыя . . | 5.400 | самалётаў |
| Саветы. . . | 4.136 | „ |
| Амэрыка . . | 2.702 | „ |
| Нямеччына . | 2.250 | „ |
| Італія . . . | 2.100 | „ |
| Англія . . . | 2.050 | „ |
| Японія . . . | 2.050 | „ |
| Чэхаславач. . | 1.206 | „ |
| Югаславія . | 970 | „ |
| Румынія . . | 910 | „ |
| Бэльгія . . | 700 | „ |
| Фінляндія . | 130 | „ |
| Літва. . . . | 110 | „ |
| Эстонія . . | 100 | „ |
| Латвія . . . | 50 | „ |

## Хто скарэй?

Рыба можа плысьці са скорасьцю 1 км. 800 мэтраў на гадзіну. З зьвяроў жывучых у вадзе дэльфін можа плысьці са скорасьцю 28 км. і 800 м. на гадзіну. Добры бягун заяц, бо можа зрабіць 64 кл. на гадз.

Вярблюд 86 „ „ „
Індыйскі слонь 95 „ „ „
Страус 43 „ „ „
Конь 64 „ „ „
Смоўж 5 м. 40 цм. „ „ „
Чарапаха 327 м „ „ „
Вандруючая стрэлка 12 км. на г.
Муха 5 км. на гадзіну
Моль 1 км. 800 м. на гадз.
Варона 43 км. на гадзіну
Пачтовы голуб 64 км. на гадз.
Качка 90 „ „ „
Арол 252 „ „ „

Але ўсіх зьвяроў перагнаў чалавек на самалёце, бо можа праляцець 709 км. на гадзіну.

## Самалёт.

Найдаўжэйшы пералёт зрабілі французскія лятуны Россі і Кодос, каторыя ў 1933 г. праляцелі 9104 км. без адпачынку.

Найвыжэй самалётам падняліся ангельцы ў восені 1936 г. Яны даляцелі да 15 км. 230 м. вышыні.

Найскарэй лятаў італьянец Агэлля, бо са скорасьцю 709 км. на гадзіну ў 1934 г.

Лятуны, каторыя па збудаваньні самалёту падняліся ў 1903 г. над зямлёй, ляцелі ўсяго са скорасьцю 16 км. на гадзіну. Былі гэта браты Врігт.

## Век зямлі.

На зьезьдзе амэрыканскага Фізычнага Т-ва і Астранамічнага Т-ва Пацыфіку разглядалася справа веку нашай Зямлі. Разважыўшы ўсе знаныя навуцы спосабы абліча́ньня веку Зямлі, вучоныя сьцьвердзілі, што нашая старушка-Зямля мае ня меней 1850 мільёнаў, і ня болей 3500 мільёнаў гадоў.

## Тэмпэратура зорак.

Вучоны д-р Т. Стернэ аблічыў, што гарачыня на зорках даходзіць да мільярда градусаў (1.000.000.000 градусаў)

## Амэрыканская зязюля.

У Паўднёвай Амэрыцы, у Аргентыне, жыве птушка neћro, з выгляду падобная да нашага шпака, каторая, так як нашая зязюля ня ўе свайго гнязда, а нясе яйкі ў гнёзды іншых птушак. Розьніцца ад зязюлі тым, што ўсе яйкі, якія яна знойдзець у гнязьдзе, б'е, так, што цэлымі астаюцца толькі яйкі нэгро.

Выцавец: Т-ВА БЕЛ. ШКОЛЫ. Адказны Рэдактар: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. І. Баўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.

# Вецер вее.

*(Народная з Ашмянскага пaвету).*

**Allegro moderato.** Гарм. К. ГАЛКОЎСКАГА




Вецер вее, сонца грэе
Жыта палавее;
Маладая дзяўчыначка
Работкі ня ўмее.

А ні шыці, а ні прасьці,
А ні кросны ткаці,—
Як зайграюць музыканты—
Першая гуляці.

На вуліцы белы камень
Сонца распаліла.
Кліча маці вячэраці,
Вячэра ня міла.

— Ой вячэрай, мая маці,
Калі наварыла,—
Няма майго міленькага
З кім я гаварыла!

Ад усходу вецер вее
Былінку калыша,
А мой мілы штось сярдзіты
Ліосточкаў ня піша.

— Пішы, міленькі, лісточкі,
Пішы не забывайся,
На чужыя харошыя
Ты не углядайся, —

Бо чужыя харошыя
Яны сабе пышны,
А мы с табой, мой міленькі,
Як у садзе вішні.

# Ах ты салавей.

*(Народная з Пастаўскага павету).*

Moderato. Гарм. К. ГАЛКОЎСКАГА.




Ах ты, салавей, раньняя птушка, (2)
Ты не шчабячы, на луг лятучы, (2)
Ты зашчабячы, у садзе седзючы, (2)
Ты не абівай раньняй расіцы, — (2)
Няхай абаб'ець мая сястрыца, (2)
Ка мне ідучы, адведваючы, (2)
Бо людзі кажуць, што я паную. (2)
Я не паную і не гарую: (2)
Няма дзе выйсьці пагаварыці, (2)
Папалам журбу ды падзяліці. (2).